Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

18 красавіка 1998 года
СУБОТА
№ 30 (110)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

**ІВАЦЭВІЧЫ**

### Усё нармальна, "Шчара"?

Адзіны рэстаран горада Івацэвічы ўсе перабудовачныя і пасляперабудовачныя часы пераносіць без асаблівых цяжкасцей. І ў мінулыя гады, і сёння ў рэстарана ёсць пастаянны — гэта пераважна моладзь — наведвальнік. Жыхары нашага райцэнтра памятаюць, што ў свой час прадпрымальнікі адкрывалі падобныя прадпрыемствы ў розных месцах райцэнтра, але ўсе яны аказаліся "каліфамі на час". А як сёння ідуць справы ў "Шчары"? Інфармацыю даюць самыя кампетэнтныя людзі — афіцыянты гэтага рэстарана Т. Збароўская і В. Радзівонава:

— Наш рэстаран працуе штодзённа, без выхадных. Увазе наведвальнікаў прапануюцца самы шырокі выбар страў і напояў высокай якасці. У чацвер, пятніцу, суботу і нядзелю працуе дыскатэка. У астатнія дні — гучыць магнітафон. Павінны заўважыць, што калі ў будзённыя дні можна заняць свабодны стол, то ў выхадныя часам не бывае дзе ябліку ўпасці. Таму просім наведвальнікаў заказваць месцы напярэдадні свайго візіту ў "Шчару".

Як вядзе сябе моладзь? Усяляк бывае. Хочацца заўважыць, што нягледзячы на сцвярджэнне аб цяжкім жыцці, нашы наведвальнікі асабліва не задумваюцца над коштам страў і напояў і адпачываюць, так бы мовіць, на ўсю катушку. Вымушаны папярэдзіць, што ў хуткім часе чакаецца рамонт нашага памяшкання, а гэта значыць, што, калі вы рашылі адпачыць у нашым рэстаране, то спяшайцеся.

### Абыходзяцца без "камандзіраў"

Напэўна, кожны жыхар нашага райцэнтра ведае пра тое, які бум узнік у асяроддзі камерцыйных структур адносна мясцовай вытворчасці і гандлю мяккай мэбляй. У свой час у райцэнтры нават узнімалася пытанне адносна ўпарадкавання вытворчасці і гандлю мяккімі вугалкамі. Але сёння вытворчасць і гандаль мяккай мэбляй у нашым раёне паступова згортваецца. Справа ў тым, што попыт на гэтую прадукцыю ў Расіі зменшыўся, і ў гандляроў мэбляй сёння ўзнікаюць пэўныя цяжкасці. Між тым, гандаль мяккай мэбляй у раёне даказаў, што вольны рынак нават на мікраўзроўні поўнасцю падуладны самарэгуляцыі, здольны самастойна працаваць з падатковымі інстанцыямі і можа абысціся без розных "камандзіраў".

### Сяўба: арганізацыя і якасць

У сераду, 15 красавіка, у ранішняй перадачы Беларускага радыё "Радыёфакт" прагучала крытыка ў адрас калгасаў імя Чарткова і імя Чапаева за дрэнную арганізацыю і няякасную сяўбу яравых культур.

Рэдакцыя звязалася па тэлефоне з гэтымі гаспадаркамі.

— Не ўсё ў нас так і дрэнна, — сказаў старшыня праўлення калгаса імя Чарткова А. І. Малевіч. — Але агрэхі можна знайсці ўсюды. Зараз у полі працуе чатыры сеяльныя агрэгаты. Сеем ячмень, авёс, пшаніцу. 41 працэнт яравых зерневых культур пасеяна ўжо. Сочым за якасцю сяўбы...

З бухгалтэрыі калгаса імя Чапаева нам адказалі, што пасеяна ўжо 518 гектараў яравых культур, у тым ліку 282 — ячменю, 109 — яравой пшаніцы, 78 — аўса, 49 гектараў зернебабовых. Гэта звыш сарака працэнтаў ад запланаванага.

За арганізацыяй і якасцю сяўбы сочыць непасрэдна галоўны агранам М. С. Ятушкевіч, які знаходзіцца ўвесь час у полі. За недахопы на веснавой сяўбе праўленнем калгаса ён быў пакараны матэрыяльна. Так што крытыка, па ўсім відаць, падзейнічала.

**БЯРОЗА**

### Сямёра "смелых"

У горадзе арыштаваны сем рабочых мясцовага маторарамонтнага завода. Іх абвінавачваюць у сістэматычным крадзяжы запчастак для трактароў.

Ад звычайных несуноў злодзеі адрозніваліся арганізаванасцю і наладжанай сістэмай збыту. Па дадзеных следства, у кучу збіліся прыкладна год таму. Вынесеныя з прадпрыемства запчасткі складзіравалі ў спецыяльных месцах, а потым прадавалі заказчыкам. Гэткім спосабам накралі на некалькі соцень мільёнаў рублёў.

На Бярозаўскім маторарамонтным заводзе кралі і раней. За пару бутэлек гарэлкі маглі вынесці з роднага прадпрыемства што заўгодна. Але каб пралетарыі пачалі арганізоўвацца ў магутныя групоўкі — такое ўпершыню. "Але хіба за два мільёны зарплаты пракорміш сям'ю?" — разводзяць рукамі рабочыя.

## Са светлым святам — Вялікаднем, дарагія чытачы!



*Смотрите в глаза прохожим,*
*Светом любви лучась.*
*За них на Голгофе тоже*
*Спасителя кровь лилась.*

*Подайте упавшему руку*
*В зловещую темноту.*
*Примите черную муку*
*Как собственную беду.*

*Несите, как факел, сердце*
*К источнику доброты.*
*И явится вам Бессмертье —*
*Предел вековой мечты.*

### Цукровы голад працягваецца

Наша газета ўжо звяртала ўвагу на адсутнасць цукру ў гандлёвых кропках раёна. А як жа сёння справы з гэтым прадуктам? Нават беглы агляд паліц нашых магазінаў паказвае, што сітуацыя за гэтыя больш чым паўмесяца не змянілася.

Дык чаму менавіта з цукрам адбываюцца такія пертурбацыі? Адказ просты: цукар — прадукт стратэгічны. Наяўнасць або адсутнасць яго лепш за ўсё сведчыць аб эканамічнай устойлівасці. На жаль, нягледзячы на ўсе абяцанні высокіх улад вырашыць "салодкае" пытанне, народ асабліва не верыць таму, што хтосьці добры "адкруціць" цэны да 22—23 тысячаў і мяшкамі скупляе цукар па 25 тысяч. У магазінах жа цукар прадаецца ў абмежаванай колькасці. Можна, канешне, купіць кілаграм цукру і супакоіцца, але якая добрая гаспадыня будзе спакойна сябе адчуваць, маючы ў "загашніку" перад наступаючым летам толькі кілаграмчык такога патрэбнага прадукта?

Тым часам у нядаўнія выхадныя цукар на рынку ўвогуле прадаваўся па 27 (!) тысячаў за кілаграм. Што называецца, адкруцілі цэны — толькі не ў той бок!

**БАРАНАВІЧЫ**

### Ох, і п'ём жа, браткі!

9.000 чалавек у мінулым годзе былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці супрацоўнікамі Баранавіцкага гарадздела міліцыі за з'яўленне ў нецвярозым стане ў грамадскіх месцах горада. У медвыцвярэзніку з гэтай колькасці пабывалі амаль тры з паловай тысячы гараджан. Каля 600 чалавек лячыліся ў наркалагічным дыспансеры з прычыны алкагалізму. І гэта — афіцыйныя лічбы. Колькі сярод нас ціхіх, так мовіць, дамашніх п'яніц, г. зн. скандалістаў, дробных хуліганаў?

### Прысвечаны А. Міцкевічу

Да 200-годдзя вялікага паэта адкрыецца турысцкі маршрут па памятных месцах, звязаных з імем А. Міцкевіча. Ужо адбылася экскурсія-прэзентацыя, дзе першымі экскурсантамі сталі педагогі школаў і сярэдніх спецыяльных установаў горада, а таксама краязнаўцы з Быценскай СШ Івацэвіцкага раёна.

## НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

### Ёсць ідэя — няма грошай

***Прэзідэнцкая палата ратыфікавала беларуска-расійскую дамову аб "саюзнай" тэлерадыёкампаніі.***

Паводле дамоўленасці, вяшчанне павінна было пачацца яшчэ 1 лютага, аднак і цяпер ніхто не можа назваць дату, калі запрацуе саюзны эфір. Плануецца, што вяшчанне будзе весціся на другім расійскім канале і на першым канале Беларускага тэлебачання — шэсць разоў на тыдзень па дзве гадзіны штодня. Аднак, як сказалі нам у кіраўніцтве Беларускага тэлебачання, пра сумесную тэлерадыёкампанію гаварыць рана. Каб яе стварыць, патрэбны значныя фінансавыя выдаткі. У дамове адзначаецца, што фінансаваць новы сродак масавай інфармацыі будзе бюджэт саюза, а таксама нацыянальныя бюджэты абедзвюх краінаў. Дакладная сума выдаткаў пакуль нават не падлічаная.

### МВФ развітваецца

***Прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду спыняе сваю дзейнасць у Беларусі з 1 ліпеня***

Прадстаўніцтва Міжнароднага валютнага фонду працавала ў Мінску з кастрычніка 1992 г. За пяць гадоў дзейнасці фонду ў Беларусі МВФ абавязаўся выдзеліць дзве траншы крэдытаў: у 1993 г. на суму 98 мільёнаў долараў і ў 1995 г. — на 101 мільён. Акрамя гэтага, у канцы 1995 года паміж беларускім урадам і МВФ была дасягнутая дамоўленасць на прадастаўленне нашай краіне крэдыту ў 300 мільёнаў долараў.

Аднак у рэальнасці з гэтых крэдытаў Беларусь атрымала толькі 70 мільёнаў — дзякуючы аўтарытэту тагачасных старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча і кіраўніка ўрада Міхаіла Чыгіра. Пазней эканамічная палітыка нашай дзяржавы пайшла ў разрэз з рэкамендацыямі МВФ, і супрацоўніцтва фактычна было спынена. Беларускія ўлады нядаўна прапаноўвалі прадстаўнікам гэтай міжнароднай фінансавай арганізацыі аднавіць праграму супрацоўніцтва, але МВФ заявіў, што кіраўніцтва Беларусі павінна спачатку прадэманстраваць жаданне праводзіць рэальныя рэформы — у прыватнасці, забяспечыць незалежнасць Нацыянальнага банка і паскорыць прыватызацыю.

### Беспрацоўе

Сёння ў Беларусі 126 тысячаў афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных, але толькі 42 працэнты з іх атрымліваюць дапамогу па беспрацоўі, якая складае цяпер у сярэднім 300 тысячаў рублёў. Дапамогу выплачваюць толькі тым, хто адпрацуе пэўную колькасць дзён на "грамадска карысных работах".

### Прыватызацыя

З пачатку правядзення малой прыватызацыі ў Беларусі прыватызавана 1.416 прадпрыемстваў або 42 працэнты аб'ектаў камунальнай уласнасці. Наперадзе ідзе Ваўкавыск — тут прыватызаваны 71 працэнт аб'ектаў камунальнай уласнасці. 54% — у Кобрыне, па 50 працэнтаў — у Брэсце і Оршы, 49 — у Лідзе, 48 — у Мінску, па 44 — у Гомелі і Магілёве, 43 — у Баранавічах, 37 — у Гродне, 35 працэнтаў — у Віцебску.

### Толькі факт

- Паводле даных зводнага пратакола пасяджэння дзяржаўнай надзвычайнай камісіі ад 21 снежня 1945 года, у Беларусі за гады Вялікай Айчыннай вайны было знішчана 1.409.225 чалавек цывільнага насельніцтва, больш за 810 тысяч ваеннапалонных салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі.
- На долю аграпрамысловага сектара у рэспубліцы за тры месяцы гэтага года прыпала 45 працэнтаў няшчасных выпадкаў са смяротным зыходам і амаль 28 працэнтаў цяжкіх траўмаў.
- У час асенне-зімовай прызыўной кампаніі прызыўныя камісіі прайшлі 60 тысяч чалавек, але ў армію пайшлі толькі 17 тысяч. 54,3 працэнта атрымалі розныя адтэрміноўкі. 15,5 працэнта перададзены ў запас па стану здароўя. 11,6 працэнта накіраваны на лячэнне і працяг медыцынскага абследавання.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

# ЖЕРТВЫ РАЗВОДА

Как это часто бывает, когда в семье взаимоотношения пойдут наперекосяк, рано или поздно наступает момент развода. Жена, конечно, остается с детьми, муж, соответственно, уходит днем ли или на ночь с личными документами и... кисточкой для бритья в кармане. Благородный поступок, достойный настоящего мужчины. Но что ждет его в близком и далеком будущем? Сможет ли он, оставшись без крова, без элементарных средств к существованию, без привычных бытовых удобств, помогать детям в той мере, в какой это необходимо, чтобы малыши не чувствовали себя ущербными по отношению к своим сверстникам, просто — не голодали?

Мать в порыве "праведного", но не всегда справедливого негодования, вытурила отца своих детей в одном костюме. Она еще не знает, что ожидает их детей, ее самую. Как легендарная Медея в порыве ревности убила своих родных детей, так и иная современная медея, поссорившись из-за мелочи, обрекает детей на нищенскую сиротскую жизнь. Как, порой, далеко заходят эти семейные раздоры, пусть будет подтверждением эта маленькая житейская, трагическая история.

Захар был примаком. Жил с женой и маленькой дочкой в ее же однокомнатной квартире. Вера, так назовем нашу "героиню", выгнала первого мужа "с кисточкой для бритья в кармане". Пока тот мыкался в поисках жилья, обзаводился мебелью и прочим домашним имуществом, платил кое-какие алименты. Их бы и хватало для поддержания нормальной жизни маленькой семьи. Вере же хотелось доказать, что и она не лыком шита — проживет одна, покрайней мере, выйдет замуж, когда захочет. Поиски нового мужа — это встречи с мужчинами, с которыми ее знакомили подруги-холостячки, привели к обыкновенным постоянным пьянкам-запоям. Постепенно квартира превратилась в заурядную блат-хату.

Захар, устав от холостятской жизни, приженился на Вере. Некоторое время жили неплохо. Но Вера уже испила яду свободной жизни. Она могла на минутку выйти из дому, а вернуться через... два-три дня. При этом, совершенно не испытывала угрызений совести.

— Не нравится? — беспечно отвечала на недоуменный вопрос Захара, — вот — Бог, вот — порог! Катись на все четыре стороны из моей хаты.

Ну, однажды Захар и выкатился со словами:

— Нет у тебя ни Бога, ни порога... Да и хаты.

— Какая есть — моя! Что хочу, то и делаю! — кричала Вера вдогонку, "забыв", однако, отдать Захару многие его личные вещи. Конечно, они вскоре были пропиты. Жалкие алименты тоже уходили на спиртное. Полуголодная девочка стала избегать дома, где попойки уже вошли в норму жизни. В школе — двойки, мелкие хищения обедов со стола в столовой, варежки — из карманов одноклассников. Дальше — больше. Приводы в милицию. Надзор. Вечно пьяная мать не только не пресекала таких "похождений" дочери, но и сначала закрывала на них глаза, а потом стала делать "наводки". Наконец, крупное воровское совместное "дело", с которого мать выкрутилась одной ей известными способами. Другое хмельное похождение. Опять уголовный розыск. А уж сколько мелких краж они совершили! Короче говоря, учителя решили спасти от такой матери. Сначала грозили лишением родительских прав. А когда увидели, что дело зашло слишком уж далеко, через гороно осуществили свою угрозу. Ах, сколько было обиды! Как возмущалась мать!

Захар не раз приходил, предлагал начать совместную жизнь сызнова. Куда там! Вера, испитая, тесно связанная с такими же как и она выпивохами, все еще надеялась устроиться в жизни потеплее. Ей и в голову не приходило, что ее поезд, как говорят, ушел. Алкоголь слишком уж разрушил в ней обыкновенные человеческие чувства: материнство, ответственность перед людьми, совесть, чисто женскую стыдливость. Она теперь могла шататься пьяной по магазинам, собирать, не стесняясь, пустые бутылки, приставать к мужикам из-за чарки вина. Пустив в квартиру, за ней следили, а наиболее решительные проверяли карманы при уходе. Даже родственники опасались оставить ее одну в комнате.

Вера сейчас одна. Девочка в школе-интернате. Вряд ли найдется мужчина, готовый рискнуть своим благополучием, ради того, чтобы попытаться сделать совершенно безнадежное дело — вернуть Веру к нормальной жизни, с мужем и дочерью. И об этом можно было бы не говорить, если бы недавно я не услышал исповедей двух одиноких мужчин. Одному из них уже за шестьдесят. Снимает угол в частном доме. Очень жалеет, что в свое время оставил при разводе квартиру жене. "Надо было разменять, — говорит, — так хоть сын сейчас при мне был. Она же пропила квартиру".

Другой недавно ушел. Втихомолку, чтобы не видеть и не слышать скандалов. Честно собрал свои носильные вещи. К товарищу. Чтобы не загромождать ему квартиру, крупные предметы оставил. Но позвонил жене и договорился позже все забрать. Пришел через неделю — не тут-то было. Еле ноги унес от милиции, которую вызвала жена.

Еще одна жертва развода.

Да... Какой бы ни была причина размолвки, а многие мужья уходят по-мужски — в нищету, оставляя, между прочим, совместно нажитое.

Многие жены проматывают это богатство, ввергая детей в пучину бедности, а то и вовсе теряя их.

Перефразируя название известного итальянского фильма, можно сказать: развод по-барановичски — это, не так уж редко, навсегда разбитая судьба взрослых и малолетних членов некогда дружной семьи. А все из-за безответственности родителей перед детьми, перед самим собой, безжалостности. Юридической безграмотности.

*П. НАГНИБЕДА.*

# ...НАРОДНАЯ МУДРАСЦЬ

Працую. Іграе магнітафон, які, аднак, мне не перашкаджае, бо прывык працаваць пад музыку. Сёння пішацца. Хочацца расказаць пра народную мудрасць, якая нас, хто жыве ў вёсцы, акружае з усіх бакоў.

Магнітафон змаўкае, пэўна скончылася касета, і да мяне адразу даносяцца галасы жанчын, што сядзяць на верандзе і спрачаюцца аб чымсьці сваім.

— Ведаеш, Анюта, прывязлі ў наш магазін ваду газіраваную. Дарагая, але ж і смачная-смачная! У такіх велізарных бутэльках, што ў руку не возьмеш...

— А як называецца?

— Вось ніяк не магу ўспомніць. Нейкая назва недарэчная, незразумелая. А! Успомніла! Соса называецца.

— Соса? А што ж гэта за назва. Як яшчэ соскай не назвалі? Гм. Сёння ва ўсіх гэтых адукаваных людзей няма аніякіх мазгоў. Хіба ж мала добрых назваў?

— Праўда, Анюта, разумных людзей сёння мала...

Мяне раптам разбірае смех. Тое, што жанчыны называюць незразумелым для іх словам — соса, з'яўляецца Кока-колай; жанчыны чыстасардэчна прачыталі толькі першыя чатыры літары, якія, дарэчы, на беларускай мове так чытаюцца, як і прачыталі жанчыны. Стрымліваю смех і слухаю далей.

— ... Яшчэ панавозілі розных смакаў. Мой хлопец купіў гэты, ну гэты... як жа ён называецца, халера вазьмі. Ну, бы рогі, адным словам.

— Бы рогі? На рогі падобны? Мо батон?

— Які батон? Ты здурэла мусіць? Што я не ведаю, які батон? Ну, іх раней не было. Дзеці іх вельмі яшчэ любяць. У мультфільмах малпы ядуць.

— Банан? Можа банан?

— Ага, банан. Успомніла, нарэшце. Смак бы ў грушы гнілой, а грошай каштуе ...

Уключаю далей магнітафон. Тэма не вычарпана: трэба далей пісаць пра народную мудрасць.

*К. ВАСІН,*
*г. Івацэвічы.*





ПАЭТЫЧНЫМ РАДКОМ

*Іван ЛАГВІНОВІЧ*

## ЗОРКА

Хрысціянская зорка
вялікоднай пары
над раўнінаю золкай
спакон веку гарыць.

Разгадаць не бяруся
таямнічасць святла,
што па ўсёй Беларусі
з вышыні праліла.

Не адводзячы погляд,
я гляджу на яе;
і імкнуцца да Бога
спадзяванні мае.

## АЗДАРАЎЛЕННЕ

На інгаляцыі на хвойныя
іду ў сасновыя бары.
У бронхах раны незагойныя
не заўважаюць дактары.

Пры дапамозе інтуіцыі
каторы год сябе лячу!..
Пра дэфіцыт, пра крызіс шпрыцавы
Яшчэ ў застойны час пачуў.

Калі патрэбен быў вытворчасці —
грэх на былое наракаць, —
У санаторый, у Дом творчасці
пуцёўку выдаваў прафкам.

Цяпер штомесячна звужаецца
выратавальны круг паслуг,
Бо нуль на нуль не памнажаецца...
Аздараўляюць лес і луг.

*г. Баранавічы.*

# ПЕДАГОГИЧЕСКИЕ НЕВЗГОДЫ

## КОЛЬЦО

— Эх, закурим, старики,—
Говорят ученики, —
Чтобы не было тоски
Завтра около доски.

Блеск цигарки. Дым кольцом.
Озабочено лицо.
— Что, брат, влип?
— Да, дела... Математика свела.
— А меня — немецкий съел.
— Крепко я тут на мель сел.

С горя, муки и тоски
Слаще меда табаки.
Говорят ученики:
— Перекурим, старики!

## КРАСОТА

Ходит парень по селу,
Дымит струйкой синей.
Чтоб важнее, краше быть?
Он и так красивый...

А когда на танцы шел —
Принял рюмку белой.
Видно, парню невдомек,
Что и так он смелый.

Ходит парень по селу,
Дым глотая синий...
Очень хочется сказать:
Ты и так красивый!

## ЭВАЛЮЦЫЯ

Бацька ўзрадаваўся сыну,
Замачыў хлапчыну.
Каб не мал быў, то сказаў бы:
"Пі! Расці мужчынам!"

Часта чуў хлапчук-падлетак
З'едлівыя кпіны:
"Не адолець гэтай крыхі?!
Што ты за мужчына!"

Дамагаўся заўжды хлопец
Не даваць прычыны,
Каб раўлі: "Спадніцу дайце!
Хіба то – мужчына?!"

...Абыходзяць людзі бокам
Бервяно жывое,
Бо мужчына – бервяно
Усё згубіў людское.

*Демьян ДОБРИЯНИК,*
*педагог-пенсионер д. Полеиничицы Барановичского р-на.*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 17 красавіка ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Леніна, 62, 225250, г. Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.



Тыраж 1830.
Заказ 1167.